SOS!

# «Ён выпіў бутэльку — і мора па калена...»

**Дзяніс ЧАШУН, які** ўжо некалькі гадоў працуе ў сталіцы вадалазам-ратавальнікам, распавядае жудасныя рэчы аб тым, чаму людзі так лёгка развітваюцца з жыццём. Наша гутарка больш нагадвае маналог...

— Вадалазам проста так не зробішся, — *гаворыць ён.* — Па-першае, трэба быць фанатам сваёй справы. Па-другое, здароўе неабходна, як у касманаўта. Не кожны такую медкамісію і пройдзе. Але сам плаваннем прафесійна я не займаўся — толькі на аматарскім узроўні.

Аказваць дапамогу даводзіцца практычна кожны дзень. І не абавязкова на вадзе. На пляжах камусьці можа зрабіцца дрэнна, нехта выпіў больш, чым трэба, хтосьці апаліўся, калі смажыў шашлыкі...

За тры гады, безумоўна, наглядзеўся на тапельцаў. Пасля таго, як убачыў першага, ён стаяў у мяне перад вачыма ўсю ноч. Да гэтага часу памятаю... Хлопец з Ратамкі вырашыў з сябрам ноччу выпіць гарэлкі на Мінскім моры. Потым палез у ваду купацца. На тым жыццё 26-гадовага хлопца і скончылася.



Зараз прызвычаіўся. Тапельцы сталі маёй паўсядзённай работай. Не так даўно з Камсамольскага возера выцягнулі бабульку. Здаецца, крымінал, хоць я ж не медыцынскі эксперт. А пра таго расіяніна, што ўсплыў вясной ля дамбы, адразу можна было сказаць — забілі. Гематома была вялікая. Са снежня чалавека шукалі. Апошні раз бачылі, як садзіўся ў таксі ў снежні ля гасцініцы "Юбілейная".

На жаль, народ у сваёй большасці — нейкі абыякавы. Бабулі зрабілася дрэнна ў вадзе, пачала тануць. Хлопцы вывелі яе на бераг і ўцяклі. Ніхто больш і не дапамог. Вось на відэакамеру тэлефона паздымаць і затым выкласці ў інтэрнэт — гэта могуць.

Людзі не толькі абыякавыя, але яшчэ і нахабныя. Кажаш чалавеку: "Нельга тут купацца". — "А ты хто такі?" — "Гэта ж не мне, а табе патрэбна. Можа, праз паўгадзіны выцягваць цябе давядзецца". — "Мае праблемы".

## ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

**Паводле звестак ратавальнікаў, з пачатку года да 21 ліпеня 2014 г. у Беларусі на вадзе загінулі 276 чалавек (з іх 18 — непаўналетнія).**

**Выратаваны 301 чалавек.**

**Папярэджаны за парушэнне правілаў аховы жыцця людзей на вадзе 9293 чалавекі (з іх — 2873 непаўналетнія).**



Ён выпіў бутэльку — і мора па калена. 80 працэнтаў патанулых з гэтай катэгорыі. У суботу кампанія піла на Мінскім моры, у іх лодку адарвала і панесла хваляй у бок вострава. Да яго плыць прыкладна 2,5 кіламетра. П'яны хлопец рашыўся на такі заплыў. Лодку мы знайшлі, хлопец знік. Але пасля знайшлі і яго. Хоць і п'яны, але мазгоў хапіла легчы спінай на хвалю і нерухома ляжаць. Так да берага і прыбіла. Лодка яму была даражэй за жыццё. Калі знайшлі яго п'яным, яшчэ і накінуўся: "У мяне сувязі! Пайшлі прэч адсюль..."

А ўвогуле, чым больш працую, тым больш пераконваюся: з мазгамі ў многіх людзей на самай справе вялікія праблемы. Зімой рыбак разам з крэслам праваліўся пад лёд. Тэрмінова прыбылі на месца. І тут — праблема! Кажух ад вады стаў цяжкім, а ў дадатак і чаравікі цягнуць уніз. Не можам выцягнуць рыбака, а той ужо і прытомнасць губляе. Крычым: "Скідвай кажух і чаравікі!" А той сінімі вуснамі ледзь шавеліць у адказ: "Не скіну, яны вельмі дарагія". Скажыце, гэта нармальны чалавек?

Тыя, каго ўдалося выратаваць, рэдка кажуць "дзякуй". Ва ўсіх прынцып такі: "Гэта ваша работа, вы за гэта грошы атрымліваеце".

А з жыццём у нас многія развітваюцца з лёгкасцю. Памятаеце трагедыю на Белым возеры, калі перакуліўся кацер? Пяць чалавек загінулі. З іх трое — дзеці. І вось пытанне: куды ж глядзелі іх бацькі? Вы самі садзілі дзетак у перагружаны кацер, сваімі рукамі адпраўлялі на смерць гэтых чалавечкаў, у якіх у жыцці ўсё толькі пачыналася...

Калі я аналізую ўсе тыя факты, што бачу, мне робіцца проста жудасна. Хочацца закрычаць: "Людзі! Што ж вы робіце?!" Іншая справа — ці ўсе пачуюць? І тыя, хто не пачуе, — мае кліенты...

## *Алег ПЕРАСЯТНІК:* *«За купанне ў забароненых месцах людзі павінны несці адказнасць»*

*На пытанні "Народнай Волі" адказвае вядучы спецыяліст Мінскай гарадской арганізацыі Таварыства ратавання на вадзе* ***Алег ПЕРАСЯТНІК.***

— Трэба адзначыць, што за апошнія 5 гадоў людзі сталі менш гінуць на вадзе, — *кажа суразмоўца.* — Калі раней у сталіцы за год у сярэднім было 100 тапельцаў, то зараз — каля 60. А было б яшчэ менш, калі б людзі слухалі парады, якія дае наша арганізацыя, і зразумелі, што гарэлка і вада — рэчы несумяшчальныя.

**— Адным словам, лета ў радасць не для ўсіх…**

— Ужо з вясны народ лезе ў ваду. І заканчвае купальны сезон восенню. Але, натуральна, яго пік прыходзіцца на лета. У гэты час для нас самыя радасныя дні, калі ідуць дажджы, — не так у ваду лезуць. З пачатку года ў Мінску патанулі 16 чалавек, з іх 10 — у гэты цёплы час.

**— Якія самыя "гарачыя кропкі" ў сталіцы?**

— Тыя, дзе стаяць знакі "Купацца забаронена". Кар'еры, розныя катлаваны, Чыжоўскае вадасховішча, канал у Зялёным Лузе (са спісам можна азнаёміцца на нашым сайце — **mgoosvod.by**)... Як мёдам намазана! А выратавальныя станцыі знаходзяцца там, дзе купанне дазволена. У забароненых зонах ёсць толькі пасты, каб адганяць жадаючых пакупацца, але ж наш народ упарты. Могуць не толькі словам прыкласціся.

**— Чытаю інфармацыйныя паведамленні ратавальнікаў і бачу, што патануць можа нават здаровы малады чалавек, які, напэўна ж, умее плаваць…**

— Па-першае, плаваць умеюць не ўсе. Па-другое, чалавек, калі пачынае тануць, адразу ж панікуе, губляецца. Поўнае глупства, што хтосьці размахвае рукамі ці крычыць. У яго і так дыханне не хапае, так што можна ціха патапіцца, а сябры, якія знаходзяцца ў некалькіх метрах ад вас, і не заўважаць. Некаторыя гінуць з-за надзіманых матрацаў, якія лопаюцца ў вадзе. Нават добры плывец можа патануць, калі вада знянацку патрапіць у лёгкія. Калі ж "пад мухай", то ідзе яшчэ дадатковая нагрузка і на сэрца.



Быў такі выпадак: мужчына паабяцаў жанчыне нападпітку, што калі тая пераплыве Камсамольскае возера, то падорыць ёй "Мерседэс". Тая паплыла, пачала тануць... Выратавалі. І што пачулі ад п'янай у адказ? Лаянку: маўляў, я з-за вас машыну не выйграла!

**— У рэгіёнах больш гіне на вадзе, чым у сталіцы?**

— Безумоўна. Якія ж там ратавальнікі на рэчцы ў вёсцы ці на возеры? Моладзь выпівае, дае нырца з берага ці дамбы. А хто ведае, што там на дне? Дарэчы, у Мінску чаму купанне ў многіх вадаёмах забараняюць? Яны вельмі забруджаныя. У ваду нягоднікі кідаюць усё што заўгодна. Дошкі з цвікамі, пабітыя бутэлькі... Днямі вадалазы выцягнулі ацяпляльную батарэю... Варвары!

**— Алег Уладзіміравіч, ці магчыма змяніць свядомасць людзей?**

— Мы выйшлі з прапановай увесці адказнасць за купанне ў забароненых месцах ці за выхад на тонкі лёд. Можа быць, штрафы спыняць людзей. Няхай чалавек заплаціць, але застанецца жывым.

**Алесь СІВЫ.**

## СЛУШНЫЯ ПАРАДЫ

*— Калі ўсё ж такі вырашылі купацца ў месцы, дзе забаронена і вас не бачаць ратавальнікі, будзьце вельмі пільныя. Заходзьце ў ваду асцярожна, добра абследуйце дно — крок за крокам, да глыбіні 1,7 м (не больш). Толькі затым купайцеся.*

*— Плыць трэба не АД берага, а ЎЗДОЎЖ берага. Зайшлі ў ваду да бяспечнай глыбіні — і плывіце, каб у любы момант можна было стаць нагамі на дно.*

*— Ніякага свавольства на вадзе! Гэта не спаборніцтвы і не трэніроўка, а вадаём — не басейн з празрыстай вадой.*

*— Калі адпачываеце з маленькімі дзецьмі, неабходна трымаць іх у вадзе за руку і не адпускаць.*

*— У ваду трэба заходзіць спакойна, каб не было рэзкіх перападаў тэмпературы і цела адаптавалася. У многіх ёсць сардэчна-сасудзістыя захворванні, таму пры рэзкім заходзе ў халодную ваду можа здарыцца інфаркт, інсульт ці сутарга.*

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# «Можа, варта ўсіх літаратараў размеркаваць па турмах?»

*— пажартаваў былы палітвязень Алесь Бяляцкі падчас прэзентацыі сваёй новай кнігі — "Іртутнае срэбра жыцця. Пралог. Нататкі праваабаронцы".*

У кнігу ўвайшлі эсэ, нататкі і ўспаміны Бяляцкага, напісаныя ў 2012—2013 гадах, калі праваабаронца адбываў пакаранне ў калоніі ў Бабруйску. Кніга падзелена на тры часткі: эсэ, лісты-ўспаміны аб сустрэчах з замежнымі калегамі, а таксама тэкст выступлення Бяляцкага з апошнім словам на судзе 23 лістапада 2011 года. Свае эсэ праваабаронца дасылаў калегам у выглядзе доўгіх лістоў, якія затым у друкаваным выглядзе адпраўляліся назад Алесю на рэдагаванне.

*"Прэзентацыю зборніка эсэ планавалі арганізаваць у чэрвені гэтага года, але ў справу ўмяшаліся акалічнасці — 21 чэрвеня на волю выйшаў аўтар,* — распавяла ўкладальнік кнігі **Алена Лапцёнак**. — *Эсэ пісаліся ў бабруйскай калоніі на працягу паўгода. У іх Алесь расказвае пра падзеі, якія папярэднічалі яго арышту ў 2011 годзе. Гэта было нешта накшталт падвядзення вынікаў пэўнага этапа яго жыцця. Ілюстрацыямі да кнігі сталі фатаграфіі, якія мы збіралі, калі ладзілі выставу да 15-годдзя праваабарончага цэнтра "Вясна".*

Кніга — сінтэз працы некалькіх чалавек. Над ёй працавалі **Алена**



**Лапцёнак, Ірына Пракопчык**, іншыя калегі праваабаронцы. А чаму менавіта "Іртутнае срэбра жыцця"?

*"Назва перадае мой сум па волі і разуменне таго, што гэтае жыццё немагчыма ўхапіць рукамі,* — кажа аўтар. — *Жыццё, як іртуць, — прыгожае і атрутнае — слізгае ў розныя бакі. Дарэчы, лісты "з фронту" ў калоніі пісаліся ў экстрэмальных умовах — на тумбачцы ці "шконцы". Вольнага часу было на дзень прыкладна паўтары гадзіны, але ж праца заўсёды працягвалася ў галаве. А першыя чатыры лісты цэнзура мне вярнула з прапановай знішчыць іх альбо перапісаць. Не знішчыў. А тыя, што перапрацаваў, можа быць, аказаліся нават больш акуратнымі. Там менш "крывавага рэжыму", а больш інфармацыі "паміж радкоў".*

Алесь Бяляцкі адзначыў таксама, што апошнім часам у турмах з'явілася шмат добрых літаратурных твораў. Рэаліі часу. І нават пажартаваў, што, можа, варта было б усіх пісьменнікаў размеркаваць па турмах.

*"За кратамі я пісаў і не мог сябе спыніць,* — распавядае Алесь. — *Гэта нейкі стан душы. Калі ты не можаш гаварыць з людзьмі, дык размаўляеш з паперай. У такой жа сітуацыі, напэўна, знаходзіліся і іншыя мае сябры па няшчасці — Павел Севярынец, Зміцер Дашкевіч, Уладзімір Някляеў... Яны стварылі ў няволі цэлы шраг, на мой погляд, выдатных літаратурных твораў, якія маюць і грамадскую, і мастацкую каштоўнасць. Неяк я з жартам напісаў аднаму свайму сябру: "Варта было адправіць за краты ўсіх беларускіх пісьменнікаў, і тады наша літаратура атрымала б нябывалы ўздым". Дарэчы, за месяц пасля выхаду на волю я не напісаў ні радка. А ў турмах людзі выходзяць на іншы ўзровень разумення жыцця..."*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

## *Не забудьте аптечку!*

Белорусам следует приобретать медицинскую страховку перед отпуском и в случае возникновения проблем со здоровьем за границей обращаться за медицинской помощью. Об этом напомнил заведующий отделом эпидемиологии Республиканского центра гигиены, эпидемиологии и общественного здоровья **Владимир Пашкович.**

Специалист также рекомендовал белорусским туристам брать на отдых аптечку с пластырями, бинтами, антисептиками, гигиеническими салфетками, жаропонижающими средствами и средствами от диареи. *"Что касается антибиотиков или конкретных препаратов, то я бы не рекомендовал их брать,* — цитирует специалиста БелаПАН. — *При симптомах необходимо обращаться за медицинской помощью и перед поездкой выписывать медицинскую страховку. Она стоит недорого, но позволяет обращаться за медпомощью на месте пребывания и получить ее в первичном объеме".*

По словам Пашковича, при выезде за рубеж, особенно в страны Азии и Африки, следует обращать внимание на происхождение используемой для питья воды и льда и употреблять только бутилированную или кипяченую воду. Питаться следует только в рекомендованных туроператором местах и при проблемах со здоровьем не пробовать экзотические блюда. Также не рекомендуется пробовать продукты на рынках.

СЛЫШАЛИ?

## *В Беларуси на 9% выросло число абортов*

После относительно существенного снижения количества абортов в 2012 году наша страна практически вернулась к количеству абортов 2011 года. Так, на 100 родов в нашей стране в минувшем году пришлось 26,6 аборта. Такие данные опубликованы Национальным статистическим комитетом.

Всего в прошлом году в Беларуси было зарегистрировано 31.206 абортов (в 2012-м — 28.628, в 2011-м — 32.031). На 50 родов среди женщин 15—49 лет приходится 13 абортов, то есть 26,5%.

В основном за минувший год больше прерываний беременности стали делать женщины 20—34 лет. На данную возрастную группу приходится самое большое количество абортов. 15% из всех решившихся на аборт женщин забеременели впервые. 27 абортов было сделано девушкам младше 15 лет.

МОДЕРНИЗАЦИЯ

## *Владимир ДУНАЕВ:* «Беларусь демонстрирует непонятную скупость при финансировании образования»



*Почему заказчики не могут оспорить качество образовательных услуг, преподаватели не хотят реформ, а власти на них экономят — об "окне возможностей" для белорусской высшей школы размышляет член Общественного Болонского комитета, профессор философии* ***Владимир Дунаев****.*

**— Среди шести приоритетов, которые изначально определил Форум политической оппозиции и гражданского общества, были и создание зоны свободной торговли со странами ЕС, и реформы пенсионного, избирательного законодательства, системы ЖКХ. Однако Форум выбрал два — реформы системы образования и медиасферы. Над ними эксперты проекта "Реформум" будут работать в течение ближайшего года. Почему реформа образования стала самой актуальной?**

— Кроме актуальности, есть еще один важный фактор, на который и опирался Форум, делая выбор. А именно — насколько реалистично сегодня ожидать определенных шагов по реформированию той или иной сферы.

Я считаю, что выбор сделан правильный. И потому, что система образования — очень важна для общества. И потому, что сегодня есть так называемое "окно возможностей", чтобы начинать ее реформировать.

Есть мотивация начинать реформы. Это связано с очередной попыткой Беларуси вступить в Болонский процесс — решение будет приниматься в начале 2015 года.

К концу года Палата представителей Национального собрания должна рассмотреть новую редакцию Кодекса об образовании.

Есть возможность попытаться максимально модернизировать многие положения с помощью европейских экспертов.

**— Насколько государство заинтересовано сегодня в том, чтобы провести настоящие, а не косметические реформы?**

— Государство неоднородно. И в этой неоднородности есть и позитивные, и негативные стороны. Прошедшая в начале декабря прошлого года парламентская дискуссия о реформах образовательного законодательства показала, что у представителей многих ветвей власти есть запрос на правильный, с нашей точки зрения, тренд. Например, была озвучена необходимость децентрализации образования. Есть понимание, что созданный механизм образовательной политики контрпродуктивен. И ведет к кричащим диспропорциям — например, к неэффективности системы финансирования образования. Даже представители власти уже говорят о проблемах открыто. Об этом, в частности, говорил вице-премьер Анатолий Тозик. Да и автор формулы самобытности белорусской системы образования Анатолий Рубинов, заявивший в 2008 году "что немцу хорошо, белорусу — смерть", вынужден констатировать, что мы идем куда-то не туда.

**— Понятно, что системе образования необходимы законодательные изменения. Можно, видимо, прописать в законе те же академические свободы. И даже выполнять эти нормы на практике. Однако решит ли это проблемы белорусского образования? Возможно, они глубже, чем просто свобода или несвобода?**

— Конечно, проблемы глубже. Но и без имплементации подобного рода норм ничего не изменится. Даже в позднесоветскую эпоху — не будем ее идеализировать — законодательная база системы образования была более либеральной. Эту систему Беларусь получила в наследство от СССР. И как она ей воспользовалась?

Еще раз повторюсь — без законодательных изменений реформы неосуществимы. Даже если появляется группа реформаторов, готовых осуществить перемены, им нужна законодательная база. Наряду с этим нужно думать и о перестройке академической культуры, ориентации на европейские императивы...

**— Для реформы нужны средства. Пока учителя и университетские преподаватели получают копейки, не будет престижа профессии, притока талантливых специалистов. Не будет хороших учителей в школах — не будет подготовленных студентов. Не будет высокого уровня преподавателей в вузах — не будет специалистов. А в вузы, несмотря на все прописанные в законе академические свободы, будут поступать те же троечники. И талантливых преподавателей из них не выйдет. Круг замкнулся.**

— Надо понимать, каких целей мы можем достичь, а каких нет. Та же Болонская система построена на трех ступенях. Первая — бакалавриат. А затем идет селекция. И если брать среднее количество магистрантов в развитых странах, то это порядка 15%. В нашем случае — это и будут те же самые 60 тысяч. Это те, кто сможет продемонстрировать успехи на отобранных программах. Далее идут докторские программы — это уже подготовка ученых, еще более высокий уровень квалификации. А у нас на магистерской ступени в прошлом году занимались 1,5% студентов. 15% и 1,5% — есть разница? Беларусь демонстрирует деградацию профессионализма.

Без серьезных инвестиций тут действительно мало что можно сделать. Однако в том, что касается высшего образования, Беларусь демонстрирует непонятную скупость. Стоимость одного студенческого места в Беларуси — порядка 2 тыс. долларов в год. В среднем в развитых странах — порядка 14 тыс. долларов. Причем это с учетом паритета покупательской способности.

И еще цифры: в развитых странах на обучение студента тратится 45% доли ВВП на душу населения, а у нас только 15%. А наш ВВП и ВВП развитых стран тоже несопоставимы.

Плюс мы неэффективно используем даже те средства, которые у нас есть. На все это наслаивается непрозрачность — скажем, те, кто платит за обучение, не знают, на что идут их деньги.

Добавим сюда еще одну архиважную составляющую — систему академических ценностей. Если это такие вот "самобытные" ценности, которые превращают образование в сталинскую "шарашку", то говорить о качестве не приходится. Академические свободы — это инструмент, который повышает эффективность высшего образования и исследований.

Так что пока мы научились только эффективно уклоняться от международных методик оценки качества. Ни в одной такой программе Беларусь не участвует. И пока утешает себя некими собственными фантастическими цифрами своих успехов.

**— Однако в реформе системы образования есть еще учителя, преподаватели вузов, профессура. На них эта реформа тоже направлена. В этой среде есть спрос на реформы? Или хотя бы понимание их необходимости?**

— Реформа направлена не на них, а на студентов, их родителей, на работодателей.

**— Ну, им так или иначе предстоит принимать в ней деятельное участие. И они могут стать жертвами этой реформы.**

— Рано или поздно они все равно станут жертвами. Но что важно — когда мы говорим о реформах, мы говорим в первую очередь об изменении масштабов общественного участия. Важно, чтобы стейкхолдеры получили реальный доступ к управлению, чтобы их голос слышали преподаватели. Сегодня преподаватель совершенно независим от запросов работодателя. Преподаватель зависит только от собственного начальства. И начальству, а не студентам, их родителям, работодателям он и будет угождать. Но ведь не начальство является потребителем услуги под названием "образование".

Почему заказчики не могут оспорить качество этой услуги, тем более что наше образование все больше коммерциализируется?

Хотят ли реформ преподаватели? Это сложный вопрос, ведь наши преподаватели бесправны, и у них нет никаких инструментов, чтобы выражать свое мнение. Советы в наших учреждениях образования бесправны. Непонятно даже, как действуют механизмы их формирования. У преподавателя нет гарантий того, что, если он будет чего-то хотеть, контракт с ним не расторгнут досрочно. Так что все решает произвол начальства. А преподавателю ничего не остается, кроме как угождать. К чему могут быть готовы такие подневольные люди?

Это и есть разрушение академической культуры. Современный белорусский тренд, который абсолютно противоположен мировому. И говорить о том, что мы соответствуем Болонскому процессу, пока не приходится. Поэтому нам так необходимы реформы.

**Николай АНИЩУК.**

УЖАС!

## *Друзья-наркоманы вырезали гомельчанину оба глаза*

**Жители Гомеля активно обсуждают жестокое преступление, совершенное молодыми людьми после употребления спайса. 21 июля, находясь в гостях у одного из подозреваемых, трое парней после употребления спайса впали в неадекват — бегали голыми, орали песни, а потом двое из них изувечили своего приятеля. 23-летний парень остался без глаз и с изуродованным лицом. Он сейчас в реанимации, в сознании, но зрения лишился навсегда — глазные яблоки отсутствуют.**

О подробностях шумной вечеринки, закончившейся трагически, БелаПАН сообщили соседи одного из подозреваемых — сына хозяина дома, в котором и было совершено преступление.

29-летний подозреваемый за несколько дней до произошедшего уволился с завода и собирался уехать на заработки в Москву.

*"Он нормальный был парень, вежливый, отцу помогал всегда, работал. Ничего такого за ним не замечали. Автомобиль был у него и у отца. Жили они втроем — отец, Саша и 23-летняя сестра. Но сестра уехала на отдых, отец был у своей больной матери в деревне, а к Саше пришли в тот вечер гости, какой-то парень незнакомый и одноклассник сестры — вот его они потом и изуродовали",* — вспоминают соседи.

Еще один подозреваемый, 21-летний, весной был отчислен из вуза, нигде впоследствии не работал и не учился.

По словам соседей, около 23 часов 21 июля во дворе частного дома было шумно. Одна из соседок, пожилая женщина, вышла в совместный двор, чтобы посмотреть, что происходит. Но 29-летний парень закричал на нее: "Иди домой!" и бросил сковородкой. Пенсионерка позвала сына, тот вызвал милицию. Парни, засевшие в это время в доме и оравшие там, начали через окно бросаться разными предметами в милиционеров.

Когда же правоохранители зашли в частный дом, то увидели комнату в крови и 23-летнего парня, не имеющего глаз и с изрезанным лицом. Он адекватно отвечал на вопросы милиционеров, в частности, назвал свою фамилию, адрес и так далее. На вопрос *"Что ты видишь?",* молодой человек ответил: *"Белый свет".*

Пострадавшего доставили в реанимацию, его товарищей — в ИВС. Когда они пришли в себя, начали утверждать, что ничего не помнят.

По информации УСК, действия подозреваемых квалифицированы по признакам состава преступления, предусмотренного пп.3, 9 ч.2 ст.147 УК (умышленное причинение тяжких телесных повреждений способом, носящим характер мучения или истязания, группой лиц).

При осмотре места происшествия следственно-оперативной группой изъяты фрагменты обоев с веществом бурого цвета, деревянный заостренный брусок, разбитый стеклянный градусник, два бумажных пакета с веществом растительного происхождения.

Расследование уголовного дела поставлено на личный контроль начальника УСК по Гомельской области. Предварительное следствие поручено группе наиболее опытных следователей.

ПРОТЕСТ

# Кому — «романтика», а кому...

В одной официальной газете бросилась в глаза передовица с завлекательным заголовком **“Романтика воздуха”.** А рубрика “ДОСААФ” над заметкой и вовсе не могла не остановить мое внимание: в прошлом летчик-инструктор с богатым стажем и опытом, я весьма неравнодушен к этим делам. Сам имел к ним отношение.

Итак, речь в упомянутой публикации шла о “захватывающем авиашоу” на аэродроме Боровая под Минском по поводу 80-летия Минского аэроклуба. Конечно же, главным событием праздника на исходе июня с.г. стал визит высокого гостя: “Поздравить авиаторов с юбилеем приехал Президент”. И здесь, говорится в публикации, Александру Лукашенко представили перспективный план развития аэродрома Липки, куда в будущем намереваются перевести аэроклуб из Боровой.

Предполагаю, что с заманчивым планом ознакомились и многочисленные VIP-персоны, приглашенные на праздник. Среди них были знаменитый российский летчик-испытатель Евгений Фролов, наш прославленный земляк-космонавт Олег Новицкий и даже российская телезвезда Леонид Якубович... Но вот о том, был ли в числе приглашенных на красивое торжество хоть бы кто-то из тысяч жителей более чем 500 домов, примыкающих к сегодняшним Липкам, чтобы и они могли порадоваться захватывающей дух перспективе, увы, умалчивается...

А жаль! Ведь сейчас, еще до реализации масштабной затеи, их дух действительно перехватило бы. Да и те, кто немного уже в курсе, чувствуют себя так, словно получили под дых...

Конкретизирую. Аэродром Липки расположен впритык к столичному поселку Озерище, в котором полтысячи домов. Это в трех километрах от бывшего военного городка с 16-этажными домами, причем строительство жилья здесь продолжается. На днях рядом с возведенными 16-этажками (около 60—80 метров высотой) установили два новых крана еще выше этих громадин. А взлетно-посадочная полоса направлена в сторону Озерища.

Сегодня над этим людским муравейником “вальсируют” вертолеты типа Ми-24 и Ми-26. Летают по инструкциям 2006-го и 2008 годов — но тогда поселок Озерище был поменьше, а в военном городке не появилось еще ни одного многоэтажного здания.

Авторитетно утверждаю: полеты производятся безграмотно, с нарушением всех авиационных норм безопасности, зачастую всего на 50—100-метровой высоте (были даже случаи - 30-метровой!) от многоэтажек. Летают аж до 22.00, когда детям пора спать.

От этого авиационного психоза, сопровождающегося громовыми раскатами вертолетных турбин, крестятся старые люди, прячутся собаки и кошки. Моя правнучка-кроха беспокойно дергается в люльке... И это — в мирное время! Подобные, мягко говоря, неудобства мы испытываем почти каждый день годами. А людям нужен покой, отдых! В наше время в таких полетах, скажу прямо, я необходимости не вижу.

Судить о безграмотности, а то и воздушном хулиганстве имею право, поскольку за рычагами управления только вертолетов разных типов провел более десяти тысяч часов, причем в авиации спецприменения, которая сегодня называется авиацией чрезвычайных ситуаций. (Моя трудовая и летная книжки находятся в собесе Первомайского района г.Минска.)

Если бы VIP-гостей праздника в Боровой посадить вместе с автором газетной статьи прямо под этот грохот вертолетных турбин, то они, наверное, вмиг бы перестали восхищаться чудесными перспективами аэродрома Липки. Вблизи уже теперь живут, а вернее мучаются-страдают от безнадеги ни в чем не повинные люди. Раньше, при вселении в эти дома, им никто не говорил о такой “перспективе”. А о новой, еще более “красивой”, и подавно!

Считаю, аэродром отжил свои сроки и должен закрыться. Газетная статья “Романтика воздуха” вряд ли успокоила жителей этого столичного поселка тем, что на аэродром Липки переводят “всего лишь” аэроклуб. Чудо, не правда ли? Кому легче, что над головами людей будут тренировать курсантов аэроклуба, пускать их в самостоятельные вылеты? Ах, “романтика воздуха”, красота?.. Но вы отчего-то не слышите “Ура!”.

Я же, опытный летчик-инструктор, обязан сказать как есть: перспектива аэродрома Липки равна безумству. Безумству в ожидании вероятной авиабеды. Ведь вертолет при любом сбое “спланирует”, словно цистерна с топливом без крыльев, прямо на наши головы... Такой “приятной” возможности опасаемся не только я и подписанты этого письма, но и многие другие.

**Даниил Кузьмич СЕКЕРИЧ и другие жители столичного поселка Озерище (всего 12 подписей).**

*Минск.*



НАБОЛЕЛО!

## *Научите, как выживать без денег...*



Надеюсь, глава Администрации президента **Андрей Кобяков** и министр труда и соцзащиты **Марианна Щеткина** смогут мне подсказать, как можно выжить без зарплаты, если ее постоянно задерживают. Как кормить детей, не иметь задолженности за коммунальные услуги?..

В Бобруйске есть ряд предприятий, на которых людям постоянно задерживают зарплату. На одном из них — Комбинате железобетонных изделий — работают мои дети. Я пишу это письмо 11 июля, а зарплату не выдали еще за май!

Зарплаты у рабочих низкие, в отпуск идут без денег: ждите.

В Бобруйске есть и другое предприятие, которое тоже строит в городе дома. У них, правда, зарплата выше — 5—6 миллионов. Работаешь — получаешь. А на Комбинате железобетонных изделий наполовину меньше, да еще и выплачивают с задержкой.

Спасибо, что хоть пенсию получаю своевременно. Конечно, не очень большую — учительскую. Из нее приходится выделять некоторую сумму детям. Себе остаются крохи, а цены зашкаливают.

Звоню в Бобруйский горисполком. Рассказываю о сложившейся ситуации. Мне отвечают: “Терпите, что делать?”

Думаю, что чиновники получают свою зарплату вовремя. И речь идет совсем не о 2,5—3 миллионах рублей. Так вот пусть они меня научат, как прожить на задержанную зарплату!

**Анна ИВАНОВИЧ.**

*г.Бобруйск.*

РОЗДУМ

## *Пашкадуйце мышку!*

Мы жывём у старым доме на першым паверсе, а пад намі — каменны падвал з польскіх часоў. І вось неяк жонка заўважыла, што ў нас хтосьці бегае па падлозе кухні. Аказалася, шэрая мышка. Гаспадыня запатрабавала неадкладна знішчыць яе. А я падумаў: навошта?

Жыве мышка ўсяго гады два, і кошка ёсць у нас. Аднойчы ў іх адбудзецца спатканне, і вядома, чым яно скончыцца... Шкада будзе мышкі, калі яна ўвечары раптам не паскрабе дзесьці за шафкай. Які жорсткі свет!

У нашым жыцці часта здараецца, што буйнейшая асоба заўсёды стараецца знішчыць усё жывое, што меншае за яе па ўзросце, па вазе, па сіле, па спрытнасці. Але Стваральнік Сусвету кожнай істоце адмераў свой век жыцця: каму ўсяго пару дзён, а каму і сто гадоў...

Рана ці позна, але ўсе мы сыдзем у небыццё. Дык давайце будзем добразычлівымі і цярплівымі, Людзьмі з вялікай літары, з высокім сумленнем. І працягнецца доўга наш век!

**Аляксей БУЦЬКО.**

*Гродна.*

ПОГЛЯД

# Са сцэны патыхала нафталінам...

Паглядзелі з сястрою “Славянскі базар у Віцебску-2014”, патэлефанавалі адно аднаму і здзівіліся супадзенню высноў: “Базар” стаў прэсным і нецікавым. Да таго ж амаль цалкам расійскім. Пра ўрачыстае закрыццё ўвогуле маўчу. Яно звялося да аднаго: хутчэй “выпхнуць” на сцэну расійскіх спевакоў, якія даўно ўжо “выйшлі ў тыраж”, — **Бабкіну, Буйнова, Газманава, Кадышаву, Маісеева**... Кожны год адны і тыя ж! І гэта пры тым, што ў Расіі столькі яскравых, таленавітых і папулярных маладых спевакоў! Са сцэны патыхала нафталінам. Цікава, па якім прынцыпе камплектуюцца праграмы?

Закрыццё фестывалю (як, дарэчы, і адкрыццё) павінна быць, што называецца, з вялікай літары! Менавіта падчас яго са сцэны амфітэатра трэба аб’яўляць і ўручаць узнагароды пераможцам і лаўрэатам, а не дзесьці “ў закутку” ў абласной філармоніі. Я, напрыклад, дагэтуль не ведаю, якое месца заняў беларускі выканаўца ў мінулым годзе, бо нідзе не змог ні пачуць, ні прачытаць, хаця “Славянскі базар” глядзеў з першага да апошняга дня. На закрыцці, лічу, павінны выступаць УСЕ ўзнагароджаныя выканаўцы, а не толькі ўладальнікі Гран-пры і шматлікія “газманавы-маісеевы”. Гэта датычыць як дарослых лаўрэатаў, так і дзяцей.

З усіх былых зорак вельмі кранальнай выглядала народная артыстка Балгарыі (ад сябе дадаў бы: “і Савецкага Саюза”) ***Лілі Іванава***. Кранала сваім знешнім выглядам — “паміраю, але не здаюся”: міні-спадніца, дзявочая прычоска... Калі яна спявала не пад фанаграму, а “ўжывую”, то прыходзіцца толькі здзіўляцца яе па-ранейшаму моцнаму голасу.

Пытанне: чаму б на адкрыццё фестывалю не запрасіць мінулагодняга пераможцу, адметнага македонскага хлопца **Бабана Майсоўскага?** Калісьці, памятаю, гэта было добрай традыцыяй, але ўсё добрае чамусьці паціхеньку знікае...

Я не паленаваўся падлічыць, і вось што атрымалася: тры расійскія нумары на сцэне, адзін беларускі, потым зноў тры расійскія, адзін беларускі... Сольныя канцэрты — толькі расійскіх выканаўцаў. Мова са сцэны — амаль спрэс руская. На беларускай я пачуў толькі дзве песні. Дыскрымінацыя, ды і толькі. Хто ў хаце гаспадар, панове? Па ўсім адчуваецца, што Расія ўсё мацней і мацней імкнецца нахіліць нас, беларусаў. Прыкра, што пераважная большасць жыхароў Беларусі, асабліва чынавенства, не бачаць у гэтым нічога дрэннага. Іх не насцярожвае нават прыклад суседняй Украіны. З гэтага года грашовая ўзнагарода пераможцам і лаўрэатам Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні стала ўдвая большая. У сувязі з гэтым само сабою напрошваецца неабходнасць удасканальвання судзейства, бо няўзброеным вокам бачна, што яно не зусім дасканалае. Каб наблізіць яго да гранічна аб’ектыўнага, не трэба вынаходзіць веласіпед, трэба самую нізкую і самую высокую адзнакі, выстаўленыя выканаўцу несумленнымі членамі журы, адкінуць. І тады ўсё стане на сваё месца. Паверце, гэта вельмі дысцыплінуе ўсіх да аднаго членаў журы (маю некаторы досвед у гэтай справе). Але хто павінен унесці гэтае невялічкае на першы погляд, але на самай справе вельмі важнае змяненне? Міністэрства культуры Беларусі? Дырэкцыя “Славянскага базару”? Не здзіўлюся, калі... Масква.

“Базар” завецца “Славянскі...”, але чамусьці не відаць на ім прадстаўнікоў Польшчы, Чэхіі, Славакіі і гэтак далей. Дарэчы, славянскіх краін у Еўропе ажно 13! Таму правільней гэты фестываль называць “Усходнеславянскі”, калі на тое пайшло. Гледзячы гэты “Славянскі базар”, я больш пераключаў каналы, чым слухаў надакучлівых расійскіх зорак... Замест асалоды ад гэтага “свята жыцця” застаўся прысмак горычы.

**Вадзім БРАШЭВІЧ, чалавек сталага ўжо веку.**



СІТУАЦЫЯ

# Пераслед за крытыку?



18 ліпеня маёй жонцы, Наталлі Мікалаеўне Малочка, у дзіцячай паліклініцы Салігорска было адмоўлена ў выпісцы бюлетэня з нагоды хваробы нашай дачкі Варвары, якой зараз тры з паловай гадзікі.

Дачка хварэе ўжо амаль месяц і не мае магчымасці хадзіць у дзіцячы садок. Лячэнне, якое прызначылі дактары паліклінікі, ніякіх вынікаў не мела, акрамя вялікіх грашовых выдаткаў на антыбіётыкі (за час лячэння іх было зменена тры).

У выпісцы бюлетэня жонцы было адмоўлена на падставе таго, што я з’яўляюся пенсіянерам і, на погляд адміністрацыі паліклінікі, магу даглядаць дачку.

Тут адразу хацелася б дадаць, што ў картачцы даўно было запісана, што бацька Варвары — пенсіянер МУС. І, я думаю, тут няма ніякага дзіва, што “маладыя” пенсіянеры МУС яшчэ могуць быць і маладымі бацькамі. Аднак у артыкуле 50 інструкцыі па выпісцы бюлетэняў, якая зацверджана пастановай №52/97 Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь ад 9 ліпеня 2002 года, размова ідзе аб непрацуючых членах сям’і. Таму, на мой погляд, тое, што адміністрацыя паліклінікі прыраўняла пенсіянера да беспрацоўнага, з’яўляецца вельмі вялікім перабольшваннем і самавольным трактаваннем інструкцыі. Больш за тое, калі размова ідзе аб нявыпісцы бюлетэня беспрацоўнаму, то бюлетэнь усё ж выпісваецца, калі беспрацоўны стаіць на ўліку ў цэнтры занятасці. Але ж, як вядома, пенсіянераў на ўлік у цэнтр занятасці ставіць забаронена. Такім чынам, размова ў арт.50 інструкцыі, якую я згадаў, ідзе аб беспрацоўных, а ні ў якім выпадку не аб пенсіянерах.

Хацеў бы таксама дадаць, што бюлетэнь жонцы не выпісалі пасля таго, як у медыцынскай кніжцы дачкі з’явілася прамое ўказанне адміністрацыі паліклінікі праверыць мой сацыяльны статус і адмовіць у выпісцы бюлетэня.

Лічу, што ўсё гэта — помста з боку адміністрацыі Салігорскай бальніцы за маю пазіцыю па будаўніцтве ў Салігорску другой паліклінікі, а таксама за выступленне ў прэсе па гэтай жа тэме з месяц таму.

Напрыканцы хацелася б яшчэ раз адзначыць, што запіс у медыцынскай кніжцы дачкі аб тым, што яе бацька пенсіянер МУС, быў зроблены даўно, яшчэ да таго, як жонка выйшла з дэкрэтнага адпачынку. Але падчас апошніх наведванняў паліклінікі дактары, якія вялі прыём дачкі, сталі “чытаць лекцыі” жонцы наконт таго, што ёй няправільна выпісваліся бюлетэні, што мы амаль што абакралі дзяржаву і зараз усе тыя бюлетэні анулююць, а нам прыйдзецца вярнуць грошы. Ніякай логікі — самі выпісвалі бюлетэні, а мы яшчэ і вінаватыя.

**Віктар МАЛОЧКА.**

*г.Салігорск.*

## Ад рэдакцыі

*Спадзяёмся, што і ў Міністэрстве аховы здароўя, і ў пракуратуры знойдуцца людзі, якія разбяруцца ў гэтай сітуацыі. І нагадаюць, што пераслед за крытыку — справа, якая ў нашай краіне караецца і Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях, і Крымінальным кодэксам.*

ШЧЫРА

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Дзякуй, “Народная Воля”, за мужную грамадзянскую пазіцыю, за цікавую газету. На старонках газеты нібыта агучваюцца мае думкі і пачуцці.

Я будаўнік, але часам складаю вершы. Зараз, сярод лета, у мяне напісалася пра адну зімовую сустрэчу, якая цвіце ў сэрцы, бы вясна... Асмелюся прапанаваць вам спробу санета пра вечнае пачуццё — каханне.

## *На яве*

*Збылася мара аб сустрэчы!*
*Аднойчы, пасярод зімы,*
*На скрыжаванні, ўжо пад вечар*
*Спаткаліся знячэўку мы.*

*Быў голас твой — зачараванне*
*І музыкаю — прывітанне...*
*Вачэй тваіх агністых ззянне*
*Нарэшце ўбачыў я не ў сне.*

*І сэрца птушкай ўстрапятала,*
*З табою разам ў рай ўзлятала,*
*І ты душу адкрыла мне.*

*Ды толькі вусны ўсё ніяк не размыкаю*
*Сказаць галоўнае — цябе кахаю!*

**Уладзімір КУЧКО, будаўнік.**

*в.Лаўрышава Навагрудскага раёна.*

ПО ПОВОДУ

## *Чтобы женщины рожали, о них нужно заботиться!*

Написать эти строки я решил после того, как познакомился с некоторыми материалами о нерадостном демографическом будущем нашей страны. Мне кажется, на демографическую обстановку продолжает отрицательно влиять Чернобыль. Его последствия сказываются и на уменьшении рождаемости, и на увеличении смертности. Так, два года назад в год рождалось около 116 тысяч человек, а умирало — 127 тысяч. Причем среди умерших немалую долю составляли люди не старше 50 лет. И уменьшение численности населения продолжается. По прогнозам специалистов ООН, через десять лет нас станет еще меньше.

Считаю, что атомной энергетике в нашей стране нужно было сказать решительное “***нет***”, а не начинать строить АЭС. Конечно, сейчас остановить строительство этой “фабрики мирного атома” практически невозможно. Но, может быть, стоит интенсивно развивать и альтернативную энергетику, используя такие источники энергии, как ветер, солнце и тепло земли? Ведь это безопаснее и дешевле. По этому пути уже пошли такие страны, как Германия, Япония и даже США.

Отрицательно сказывается на нашей демографии и постоянный рост алкоголизма и наркомании. Не секрет, что около 60 процентов наших мужчин в возрасте до 40 лет не способны к продолжению рода.

Думаю, что наши депутаты обязаны срочно принять свод законов об ужесточении борьбы с алкоголизмом и особенно с наркоманией, иначе пагубные щупальца этих явлений опутают и уничтожат тысячи молодых людей. Мне кажется, ввоз, изготовление и распространение наркотиков нужно приравнять к терроризму.

А еще, чтобы улучшить демографическую ситуацию, нужно проявлять действительную заботу о женщинах. Ведь в стране до конца не решен ни квартирный вопрос, ни вопрос детских яслей и садиков... Когда женщина будет чувствовать уверенность в завтрашнем дне, она не будет раздумывать, рожать или нет...

**С уважением —**

**Юрий ЯСИНСКИЙ, отец двух детей.**

ТАК ДУМАЮ

## *Самое главное — реформа избирательного законодательства!*

В одном из прошлых номеров “Народной Воли” прочитал, что из всех реформ на первое место ставится создание зоны свободной торговли с Евросоюзом. Считаю, что это в корне неправильно. На первом месте должна быть реформа избирательного законодательства. Только она позволит изменить авторитарный режим и выбрать нового президента.

Доведите это, пожалуйста, до сведения **Игоря Лялькова**, который является председателем Форума политической оппозиции. Без совершенствования законодательства ни о каких демократических выборах не может быть и речи!

**С уважением —**

**Владимир СТЕПАНИЩЕВ.**

*Витебск.*

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## *Не ўсе ведаюць баршчэўнік у твар*

Прапановы эколага спадара Шулякоўскага наконт таго, што ядавіты баршчэўнік можа быць карысным, шчыра кажучы, мне падаліся дзіўнымі. У нас няма столькі казуляў, аленяў, ласёў і зуброў, каб з’есці на тысячах гектарах зеляніну інвазійнай расліны, гэтага сапраўды агрэсіўнага каўказскага прыхадня! З-за такіх гора-эколагаў і рассяліўся ён на нашай зямлі. Гэта яны прыдумалі, што хімію супраць яго трэба выкарыстоўваць пры плошчы не менш за 0,5 гектара. Гэта з-за бяздзеяння экалагічных службаў павялічваюцца занятыя шкоднікам плошчы.

Уся праблема ў нашай бездапаможнасці, у запозненым рэагаванні на любую небяспеку — хай сабе гэта спайс, “каларадскія” стужкі або баршчэўнік. Ну так, Акадэмія навук вядзе ўлік плантацый, мае карту рассялення баршчэўніка па краіне. Але па ТБ не паказана ніводнага сацыяльнага роліка, які папярэджваў бы насельніцтва, каб людзі ведалі шкодніка ў твар! Даходзіць да смешнага: на вуліцы Арлоўскай у Мінску гаспадыня вырошчвае асілка на прыватным агародзе. Яна кідаецца з інвентаром на кожнага, хто хоча на яго замахнуцца. Ну гэта ж не ад лішку ведаў!

На пачатку праспекта Пушкіна каля аўтазапраўкі красуецца парачка ядавітых “парасонаў”, і нікога, нават зеленбуд Маскоўскага раёна, гэта не хвалюе. З’явіліся зараснікі на тэрыторыі Заслаўскага запаведніка — там, дзе стаіць царква. Раскашуе ён на выездзе з Азярца. Простае выкошванне нічога не дае, не на таго нарваліся! Насамрэч маладую расліну, пакуль яна не засеяла ваколіцу, увесну няцяжка выкапаць пад лапату...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, пенсіянерка.**

